# Ці адчуваюць насякомыя боль?

*(Запіскі піонэра, зробленыя на аснове нагляданьняў).*

Пытаньне аб тым, ці адчуваюць насякомыя боль, напэўна паўстае перад кожным юным натуралістым, зьбіраючым іх колекцыі. Гэта пытаньне часта перашкаджае пасьпяхова лавіць розных казюляк дзецям, бо не заўсёды хопіць рашучасьці „зрабіць балюча“ якой-небудзь вельмі прыгожай казюльцы і інш. І таму з рук колекцыянэра, які ня хоча рабіць болі прыгожым казюлькам, часта ўцякаюць вельмі рэдкія іх экзэмпляры.



Кожны малады натураліст ведае, што насякомае мае добра разьвітыя органы пачуцьця і нават маюць шмат такіх органаў, якіх ня мае чалавек. Напрыклад, мурашкі бачаць сваімі вачыма так званыя ультра-фіялетавыя праменьні сонечнага сьвятла, раскладзенага на яго складаныя часткі. Чалавек гэтых праменьняў ніякім чынам простым вокам убачыць ня можа. Таксама ў насякомых, асабліва ня маючых вачэй, органы вошчупу разьвіты ў шмат разоў лепей, чым у людзей.

Але, ня гледзячы на вышэйсказанае, шмат фактаў ёсьць за тое, што насякомае не адчувае болі. Праўда, кожнае насякомае адчувае тое ці іншае раздражэньне, калі да яго дакранешся чым-небудзь, або адарвеш якую-небудзь частку цела, але такой болі з мучэньнямі, якую мы ўяўляем сабе, напэўна, яны зусім ня ведаюць.

Для сьцьвярджэньня сказанага возьмем прыклад. Калі ў страказы адняць жывоцік, то яна ад гэтага ня толькі ня кіне есьці, а нават будзе есьці яшчэ больш, бяз усякай меры, бо ўжо тое, што яна паядае, будзе выходзіць праз дзірку прарэзанага кішэчніка. Гэта самае будзе і з асой. Калі ў яе таксама адрэзаць жывоцік і потым карміць мёдам, то яна будзе есьці бяз конца, чаго ня зробіць не парэзаная.

Гэта значыць, што насякомае ня толькі не адчувае болі, але нават і ня губляе апэтыту.

Юным натуралістам, зьбіраючым колекцыі насякомых, трэба ведаць,—насякомае болі не адчувае, а таму і адкінуць лішні жаль да іх.

**В. Галадкоўскі.**

## ЗЬМЕСТ

*Год выданьня 4-ы.* Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!





**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 15** **ЖНІВЕНЬ** **1928 г.**

# Дваццаць пяць год бальшавізму.

Роўна дваццаць пяць год таму назад адбыўся зьезд Расійскае Сацыял-Дэмакратычнае Рабочае Партыі.

На зьезьдзе было пастаўлена на вырашэньне шмат розных пытаньняў, сярод іх — аб арганізацыі адзінай партыі і програме партыі. Выявілася, што частка дэлегатаў (меншасьць), на чале з Мартавым, не згадзілася з Леніным, які стаяў на чале большасьці дэлегатаў зьезду, па шмат якіх пытаньнях: напр., у пытаньні аб рэвалюцыі Ленін даводзіў, што трэба ўзьнімаць рабочых і сялян і сілай захапіць уладу. Мартаў-жа лічыў патрэбным дагаварвацца з буржуазіяй і ўрадам, каб яны далі палёгку пролетарыяту.

Дзякуючы правільнасьці лініі Леніна, бальшавізм перамог і ўтварыў першую ў сьвеце рэспубліку рабочых і сялян. Меншавікі-ж зусім адарваліся ад рабочае клясы: яны перайшлі ў лягер ворагаў пролетарыяту. На здымку група, якая ішла за большасьцю зьезду—за Леніным.



1) Н. Э. Бауман, 2) Ул. І. Ленін, 3) Г. В. Плеханаў, 4) Д. І. Ульянаў, 5) Ф. В. Галкін, 6) П. А. Красікаў, 7) А. М. Стапані.





# БУДЗЕМ ПАДРЫХТАВАНЫ.

## Усім піонэратрадам і школам.

Дзеці працоўных!

У той час, калі краіна наша шаг за шагам узмацняе свае сілы і гаспадарку, ня можа быць ніводнага чалавека, ні дарослага, ні дзіцяці, які-б стаяў у баку і сядзеў, злажыўшы рукі. Усе мы з вёскі ці з гораду павінны памагаць, як можам і чым можам, узьнімаць гаспадарку краіны.

Мы ня выхоўваем з сябе дармаедаў і гультаёў; мы змалку вучымся працаваць у полі, у садзе, на агародзе, наогул дома, у гаспадарцы.

Аднак, мы ня толькі вучымся, але і прыносім сваёй работай, сваімі маленькімі дасягненьнямі дапамогу савецкай уладзе будаваць пановаму социялістычную гаспадарку.

Шмат якія піонэратрады, школы ў вёсцы і ў горадзе, а таксама паасобныя дзеці ў гэта лета вядуць працу на агародах, градках, організуюць работу па паляпшэньню корму і догляду за хатнімі жывёламі і птушкамі. Кожны з гэтых атрадаў ужо мае посьпехі, а калі гэта так, трэба зрабіць, каб гэтыя посьпехі і дасягненьні ў рабоце па сельскай гаспадарцы не прападалі дарэмна, а пайшлі-б на карысьць і другім піонэратрадам і школам, каб яны на вопыце нашай работы вучыліся паляпшаць сельскую гаспадарку ў сваёй вёсцы і раёне.

Пагэтаму да дню ўраджаю Цэнтральнае Бюро Юных Піонэраў абвяшчае агляд посьпехаў дзяцей у сельска-гаспадарчай рабоце і зьвяртаецца да ўсіх дзяцей прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні дню ўраджаю, організавана падрыхтавацца да яго, падлічыць свае посьпехі і недахопы.

Піонэры! Не чакаючы ніводнай хвіліны:

1) Пачынайце падрыхтоўку да ўдзелу ў аглядзе сельска-гаспадарчай рабоце дзяцей. Для гэтага абмяркуйце на зборы атрадаў і зьвеньняў, як атрад будзе ўдзельнічаць у аглядзе і пачынайце падбор экспанатаў для выставак, рыхтуйце рысункі, якія будуць адбіваць сельскагаспадарчую працу атрада.

2) Шырока апавясьцеце пра задачы агляду і падрыхтоўку да яго сярод неорганізаваных дзяцей, школьнікаў, а таксама і дарослых.

3) Дзяткоры і дзеці, якія вядуць работу па сельскай гаспадарцы (у атрадзе, школе ці самастойна) павінны пісаць у насьценгазэце, а таксама ў друкаваныя дзіцячыя і для дарослых газэты і часопісі.

4) Сумесна са школай падрыхтавацца да дню ўраджаю і да адчыненьня сельска-гаспадарчай выстаўкі, для таго, каб адзначыць гэта наладжваньнем розных забаваў: гульні, песьні, частушкі, карагоды.

Нам. стар. ЦБЮП пры ЦК УсеЛКСМ Зорын.

# ЯК БУДЗЕ ПРАХОДЗІЦЬ АГЛЯД.

*(З абежніка ЦК УсеЛКСМ).*

У сяголетні дзень ураджаю піонэр-організацыя мае ўжо двухгадовы вопыт с.-гаспадарчай работы, пагэтаму ЦК УсеЛКСМ к гэтаму дню абвяшчае агляд дасягненьняў дзяцей у с.-гаспадарчай рабоце па трох важнейшых галінах:

1. *Агародніцтва.* На лепшы колектыўны дзіцячы агарод, а таксама на лепшую работу па індывідуальных градках і агародах.

2. *Птушніцтва.* На лепшую адкормленую птушку (колектыўна ці індывідуальна). На лепшага зьбіральніка яек, іх хаваньня і на лепшы экспанат птушыных памяшканьняў (куратнікаў, гнёзд, палічак і г. д.).

3. *Жывёлагадоўля.* На лепшыя вынікі догляду за жывёлай, колектыўнае шэфства над маладняком, збор лепшых колекцый і гатункаў кармовых траў, за лепшыя караньплоды і экспанаты памяшканьняў для скаціны (дацкія кармушкі і іншыя).

**Парадак правядзеньня агляду.**

Агляд будзе праводзіцца з 1 жніўня па 1 сьнежня.

Кожная організацыя пасьля сканчэньня акругавага агляду лепшыя экспанаты і дасягненьні с.-гаспадарчай работы па трох галінах (агародніцтву, птушніцтву і жывёлагадоўлі) выстаўляе перад цэнтрам на прадмет іх прэміраваньня.

Піонэратрады, школы і асобныя дзеці, якія пакажуць на акруговых выстаўках (пасьля сельсавецкіх і раённых) лепшыя экспанаты і модэлі па адзначаных трох галінах сельскай гаспадаркі, будуць атрымліваць прэміі ад цэнтра. Па іншых-жа галінах прэміраваньне павінны рабіць мясцовыя камітэты па агляду (сельсавецкія, раённыя, акруговыя).

У першую чаргу прэміравацца павінны як у цэнтры, гэтак і на мясцох, колектыўныя формы с.-гаспадарчай работы дзяцей, вылучаючы для гэтага лепшыя прэміі і шырока апавяшчаючы пра іх у мясцовым і цэнтральным друку.

За лепшую с.-гаспадарчую работу будуць выданы цэнтральныя прэміі.

1) Па агародніцтву 545 прэмій.

2) Па птушніцтву—60.

3) Па жывёлагадоўлі—55.

## Дэлегаты конгрэсу Комінтэрну у піонэраў.



На здымку: піонэрка з Трохгорнай мануфактуры падносіць гальштук дэлегатцы конгрэсу тав. Боль.

# Піонэр сацыяльнае рэволюцыі.

## Мікалай Гаўрылавіч Чарнышэўскі.



### Сто год назад таму

У ліпені 1928 г. ў сям'і Саратаўскага пратаярэя нарадзіўся будучы соцыялістычны бунтар. Яшчэ змалку Мікалай Гаўрылавіч пачаў марыць аб тым, як ён стане вучоным і сваімі ведамі будзе садзейнічаць вызваленьню роднага народу з-пад цемры і невуцтва. Бацькі-ж мерыліся зрабіць яго папом; блізкія знаёмыя ўжо бачылі ў ім будучае „сьвяціла“ праваслаўнае царквы.

На 16-м годзе М. Г. быў аддадзены ў духоўную сэмінарыю. Але не цягнула будучага рэволюцыянэра да папоўскае чыннасьці. Праз 2 гады ён пакідае сэмінарыю і едзе ў Пецярбург, дзе і паступае на філёзофскі факультэт унівэрсытэту.

Тым часам Крымская вайна пахіснула моц царызму. Усерасійскі жандар Мікалай I пасьпешна атруціўся, каб ня ўбачыць апошніх ганебных дзён свайго жыцьця. Пачала хвалявацца перадавая жвавая моладзь. На ўсю Расію зазьвінеў малады голас:

— Далоў паншчыну!

І здарылася так, што жаданьне навукі перасілілі ў Чарнышэўскім балючыя грамадзкія пытаньні, і ён стаў сацыялістым, сацыялістым у тыя часы, калі толькі за адно „вольнае“ слова „рэволюцыянэр“ вешалі, ссылалі на век у Сібір, хавалі жывых у Петрапаўлаўскай крэпасьці...

### Студэнт вучыць прафэсара.

Пры сканчэньні Унівэрсытэту Чарнышэўскі чытаў сваю дысэртацыю (разважаньні аб навуковых рэчах) аб эстэтыцы (прыгожасьці). У ёй студэнт Чарнышэўскі сказаў: *„Няма мастацтва для мастацтва. Усе справы* (і мастацкія ў тым ліку—*Р.М.*) *павінны быць на карысьць чалавеку“.*

— Здаецца, я на лекцыі чытаў вам зусім ня гэта,—упікаў Чарнышэўскаму цьвёрдалобы прафэсар Плятнёў.—Так, зусім ня гэта...

### Піонэр сацыяльнае рэволюцыі.

Міністэрства Асьветы за такую бунтарскую дысэртацыю, бязумоўна, не зацьвердзіла Чарнышэўскага магістрам філёзофіі, але той ня вельмі і дбаў пра гэта. У той час пад рэдактарствам поэты Некрасава выдавалася часопісь „Современник“. Чарнышэўскі разам з вядомым крытыкам Дабралюбавым прыняў чынны ўдзел у ёй. Адначасна з літаратурнаю крытыкай, М. Г. вядзе жорсткую барацьбу з царызмам, супроць бясправаўнасьці народу. „Вялікі сацыялісты дамарксавага пэрыяду“, гэтак называе яго таварыш Ленін, Карл Маркс знарок вы-

вучае расійскую мову, каб толькі пазнаёміцца з думкамі Чарнышэўскага.

За 3 гады да славутага „Вызваленьня з-пад паншчыны“ Чарнышэўскі рэзка выступае супроць гэтае рэформы, называе яе мыльнаю надзіманкаю, ня верыць у царскія абяцаньні і заклікае другіх таксама ня верыць; ён лічыць, што трэба валіць самаўладзтва, што народ з-пад прымусу хутка ўзьнімецца і тады будзе рэволюцыйны выбух, а разам з ім і вызваленьне народу. І ён гаворыць:

— Дык лепш няхай ня будзе ніякай рэформы,—народ хутчэй паўстане.

Народ-жа ў тыя часы моцна яшчэ верыў у цара і яго абяцанкі.

**— Мікалай Гаўрылавіч, загадайце спыніць пажары!**

Пісьменьнікі з дваран адразу ня ўзьлюбілі Чарнышэўскага, бо вельмі ўжо крытыкаваў ён іх творчасьць, праўда, умеючы і добра ведаючы сваю справу, вельмі рэзка і жорстка ганіў іх ідэалы, іх мары і погляды на жыцьцё.

— Ад тваіх сэмінарыстых жыцьця няма!—крычаць пісьменьнікі Некрасаву, і пакідаюць супрацоўнічаць у часопісі. Аблаяўшы „сэмінарыстых“ вышаў са складу супрацоўнікаў і Тургенеў.

„Нігілісты“ [1]), гак звалі Чарнышэўскага і яго сяброў усе, быццам-бы перадавыя людзі паншчыны, а на справе ворагі ўсяго перадавога, жывога. Л. М. Толстой, у якім Чарнышэўскі першы заўважыў геніяльнага пісьменьніка, пагардна называе яго „клоповоняющим писателем“. Нават народнік—Герцэн, вядомы барацьбіт супроць царызму, выступае супроць рашучага рэволюцыянэра, якім быў Чарнышэўскі, бо ня спыняўся ён (Чарнышэўскі) на паўдарозе, а прарочыў паўстаньне, соцыяльную рэволюцыю.

Расьце рэволюцыйны рух, сялянства ўзьнімае галаву, і Чарнушэўскі з радасьцю і цалкам аддаецца ўвесь рэволюцыйнай рабоце, піша адозвы да сялян, да моладзі, працуе і працуе. Яго ўплыў, асабліва на моладзь, становіцца непарушным. Яго лічылі, нават, ворагі, усясільным чалавекам, які можа шмат што зрабіць. Гэтак у Пецярбурзе былі вялікія пажары. Вядомы пісьменьнік Дастаеўскі ў часе іх уварваўся ў кватэру Чарнышэўскага з голасам:

— Мікалай Гаўрылавіч, загадайце спыніць пажары! Усе думалі, што пажары зрабілі „нігілісты“ на чале з Чарнышэўскім.

**Яму было 35 год,**

калі ўрад цара-„освободителя“, надта напалоханы Чарнышэўскім, загадаў арыштаваць яго. Вялікі чалавек свайго часу, вялікі і нам цяпер, першы ў Расіі ўсьвядоміўшы, што няма шчасьця і праўды на зямлі без соцыяльнае рэволюцыі, азьвярэлым царскім чыноўніцтвам кідаецца ў самую страшную Петрапаўлаўскую крэпасьць.

За што засадзілі ў гэты каменны мяшок самага выдатнага чалавека тагочаснае Расіі?

Не за тое, вядома, што ён друкаваў свае творы (друкаваліся яны з дазволу цэнзуры і тут падкапацца нельга было), а за яго погляды і перакананьні, за тое, што яго думкі мелі вялікую сілу і валадалі маладымі галавамі, за тое, што прымушалі грамадзкасьць паўстаць супроць царскага рэжыму.

Два гады шукаў урад сродкаў, каб засудзіць Чарнышэўскага, і, нарэшце, знайшліся дакуманты (фальшывыя, бязумоўна, знарок падробленыя) і яго засудзілі на 14 год на катаргу і вечнае пасяленьне ў Сібіры.

**Сібірская катарга.**

Перад сасланьнем, царскія каты прарабілі над Чарнышэўскім грамадзкае пакараньне. На шырокай плошчы, з падпісанаю дошчачкаю на шыі „Дзяржаўны злачынец“, яго прыкавалі ланцугамі да ганебнага слупу і адзін з катаў паламаў над галавою яго шпагу, пасьля таго, як прачыталі „грамату“, што ён пазбаўляецца дваранскіх правоў. І ў тойжа час з натоўпу людзей цераз галовы жандараў разам з прывітальным воклікам к нагам Чарнушэўскага падае вянок з жывых красак.

Тры месяцы ў ланцугох ідзе па тайзе, пад моцнаю вартаю казакоў і жандараў к граніцы Манголіі, у Сібір, цьвёрды Чарнышэўскі. Толькі тады зразумеў Герцэн, супроць каго ён выступаў і з гневам і злосьцю б‘е ў свой „Колокол“ [1]), грыміць на ўсю Расію:

---

1) Той, хто ня верыць аўтарытэтам: хоча ўсё пазнаць сам.

1) Часопісь.

— ...Прakляцьце вам. Прakляцьце і помста.

Гэта да катаў Чарнышэўскага, да ўсяе Расіі, да ўсяго грамадзтва, якое і пальцам не кранула, каб недапусьціць засуджэньня Чарнышэўскага.

Цэлыя сем год прайшлі ўтомна на катарзе ў руднікох для цярплівага рэволюцыянэра. Увесь час ён чакаў цярпліва, чакаў і мучыўся, пакутваў у думках сваіх...

Яшчэ ў Петрапаўлаўскай крэпасьці напісаў ён свой вядомы раман „Что делать“, як адказ на хвалюючыя думкі моладзі. Пасьля сасланьня гэты раман стаў падпольным падручнікам, а справа аўтара штандарам для яго пасьлядоўцаў. На сходках і вечарынах рэволюцыйная моладзь сьпявае складзеныя самімі пра свайго правадыра песьні. Думкі ўсіх імкнуцца да яго туды ў халодную і пахмурную Сібір, дзе застывала ад людзкое варожасьці агніста гарачае сэрца.

**Як вызваліць Чарнышэўскага.**

Гарачыя галовы шмат якіх рэволюцыянэраў думаюць аб вызваленьні Чарнышэўскага, аб тым, як вывезьці яго заграніцу, дзе ён стане на чале рэволюцыйнае організацыі, складаюць пляны. Знарок для гэтага ўцякае 2 разы з Сібіры рэволюцыянэр Лапацін і абодвы разы яго ловяць. Рэволюцыянэр Мышкін ужо амаль дасягнуў мэты. Пад відам жандарскага афіцэра зьяўляецца ён у турму і патрабуе, каб яму выдалі Чарнышэўскага. Не, усё дарэмна: „дзяржаўнага злачынца“ сьцерагуць моцна, вартавыя жандары ня дрэмлюць. Арыштоўваюць і Мышкіна, як ужо арыштавалі цэлы шэраг да яго. І халодна-спакойны Чарнышэўскі галосіць, галосіць не па сабе, а па тых героях, што загінулі з-за яго.

Толькі, калі партыя „Народнае Волі“ абвяшчае самы жорсткі тэрор манархіі, калі Аляксандр II „освободитель“ ляціць на шматкі ад выбуху помстуючай бомбы.—Вызвальце Чарнышэўскага! — тады трусьлівы ўрад выпушчае яго з турмы і дазваляе жыць у Астрахані.

Жорсткая катарга зламала здароўе Чарнышэўскага. Праз 6 год пасьля вызваленьня з катаргі М. Г. з дазволу ўлады едзе ў свой родны Саратаў. Праз некалькі месяцаў у кастрычніку 1885 г. ён памірае, памірае змучаны, разьбіты, але не адцураўшыся сваіх рэволюцыйных думак і поглядаў.

**Пасьля сьмерці.**

Легальна друкаваныя некалі творы Чарнышэўскага былі забаронены ўладаю і сталі падпольнаю літаратураю (больш за 12 тамоў напісана і перакладзена ўсяго Чарнышэўскім); малапрыкметная магілка яго зарастала густою травою,— царскія жандары да канца рабілі сваю справу.



*Грамадзкае пакараньне Чарнышэўскага.*

Але з цягам часу творчая і бунтарская думка прабуджанага народу ўсё часьцей і часьцей пачала ўспамінаць з самадакорамі імя Чарнышэўскага. Вядомы поэта Тан у „Нижегородском сборнике“ ў 1905 г. прысьвячае верш „Памяти Чернышевского“. Вось невялічкі, мала каму знаёмы, урывак з яго:

„По всей стране от Финского залива
До вековых востока рубежей
Стоят кресты и дремлют молчаливо,
Как вереница сторожей.

. . . . . . .

Над русскою великою рекою
Могила есть. Она еще свежа,
Но брошена забвенью и покою
И заросла травой ее межа.

К могиле той никто не ходит в гости,
Лишь изредка холодных слез дождем
Над ней гроза расплачется от злости;
Туда сложил измученные кости
Изгнанник, бывший нам вождем..."

Не дарма пісаў некалі „изгнанник бывший нам вождем" сваёй жонцы з крэпасьці: „Наша жыцьцё з табою належыць гісторыі. Пройдуць сотні год, і нашы імёны ўсё яшчэ будуць любы людзям і будуць успамінаць пра нас з удзячнасьцю тады, калі ўжо забудуць амаль усіх, хто жыў разам з намі. Дык непатрэбна-ж нам зьніжаць сябе ў бадзёрасьці і характары перад людзьмі, якія будуць вывучаць наша жыцьцё.

Гэта праўда: удзячнае патомства, дасягнуўшы таго, да чаго заклікаў і аб чым толькі марыў тады яшчэ Чарнышэўскі, ґараз вывучае яго жыцьцё.

Р. М.

---

Е. Б. Броўнінг.

# КРЫК ДЗЯЦЕЙ.

*(З ангельскае).*

Ці вы чуеце, браткі, як плачуць дзеці
Не зазнаўшы гора сталых год?
Яны хіляцца галоўкамі да матак
І стрымаць ня могуць слёзаў ход.

Ў паплавох маленькія ягняткі скачуць,
Птушкі весела шчабечуць у гнязьдзе,
У лясох зайцы гуляюць з лісьцем,
Расьцьвітаюць краскі ў сьветлы дзень.

Толькі дзеці нашыя малыя
Горка плачуць без пары,
Плачуць і тады, калі другія
Весела гуляюць да зары.

Яны глядзяць—і на зьбялелых тварах
Запаў глыбока ў зморшчках сум—
Так у сівога старца карых
Вачох мігцяць зарніцы дум...

— Зямля бацькоў была спрадвеку жорсткай
Для кволых ног замучаных дзяцей,
Яшчэ ў жыцьці мы не тапталі сьцежак,
А могілак спакой, што далей, то бліжэй.

Спытай старых, чаму яны галосяць,
Калі пара надойдзе паміраць?—
А наша сэрца сьмерці просіць,
Бо вельмі цяжка вечна гараваць.

Мы змораныя—кажуць дзеці—
І ня можам бегаць і скакаць.
Марым мы аб паплавох і леце—
Паваліцца-б на траве і спаць.

Бо дрыжаць балюча нашы ногі
І мы валімся, калі пачнем ісьці,
Нашаму замучанаму зроку
Роза будзе белым колерам цьвісьці...

Бо штодня мы цягнем нашу лямку
Пад зямлёй у змроку сутарэньняў,
На заводах бязупынна цягнем
Рух жалезных колавых злучэньняў.

Цэлы дзень гудуць і ходзяць колы,
Іхні вецер наш казыча твар,
Пакуль мур засьвеціцца вясёлы,
Галаву і сэрца апануе жар.

І закруціцца ў вакне высокім неба,
Доўгі цень пачне круціцца на сьцяне,
Мухі чорныя закруцяцца па столі,
Цэлы дзень мы круцімся ўсе.

Цэлы дзень гудуць жалезам колы
І часамі крыкнуць-бы хацеў:
„Супынецеся!" Мы так шалёна стогнем,
„Замаўчэце, колы, хоць на дзень!"

Яны глядзяць—і на зьбялелых тварах
Лягла, як ноч, халодная нуда.
Туды, дзе ўсход расквітвае пажарам
Яны нясуць любоў сваю аддаць.

— Як доўга,—кажуць,—жорсткія вы людзі,
Як доўга будзеце сусьветам кіраваць!?
Ваш капітал нам цісьне камнем грудзі,
Каб нашым сонцам скрынкі набіваць...

Смакчы да часу нас, золатахцівец,
Бо наша кроў твой вызначае шлях,
Бо гнеў дзяцей прыдушаны, маўклівы
Пачуе зноў крывавая зямля!

Пераклад **Б. Ім. Армар**.



# ЗЛОСЬЦЬ

Апавяданьне С. Баранава.

Малюнкі Філіпоўскага.

I.

Мне цяпер, ад дзесятухі, кажа мая матка, пайшоў сёмы год. Яна кажа, што я вельмі борзда расту.

„Мой сынок, Сенячка, няўрокам кажучы, выцыбаўся“. Гэтак кажа матка.

А я і ня только выцыбаўся, а і зусім, можна сказаць, пасталеў. Я цяпер, нават, калі і злую, дык ня плачу ад злосьці. Ня гэтак як уперад. Я от ужо лепей цішком перанясу, а не заплачу. Лепей няхай яно ў мяне ў сярэдзіне перакіпіць, пераварыцца...

Я гэтую злосьць магу нават выношваць і доўгі час. Калі мне, няхай што ды ад каго ня ўлад—тады я яе, гэткую злосьць, магу выношваць нераўнуючы, як нявыляжаўшыся яблык — антон, альбо ігрушу-дулю.

І вось, калі часамі я цяпер злую—ня іду есьці за стол, альбо ня плачу, але так ад чаго-небудзь сьлёзы ў мяне коцяцца з вачэй, дык тады мой бацька вось што заўважае мне на гэта:

„Хто злуе, сынок, няхай той пацалуе смаркатую бабу. І ў мяне пасьля гэтага, як мае быць закіпае ўсё ў сярэдзіне.

„Ты сынок,—кажа бацька далей,—скажы мне, з чым гэтую злосьць можна сёрбаць? Якая яна, гэтая злосьць: посная ці скаромная? А калі гэта ня страва, дык ці ня можна яе абмацаць рукамі: ці яна як пух—мяккая, ці яна як камень—цьвёрдая? А калі яе нельга абмацаць, дык якім пахам яна аддае: ці пархумным пахам, ці пахам гнілога яйца? Ну, а калі,—канчае мой бацька,—гэтая злосьць ні сёе, ні тое, дык можа яна, мой сынок, і непатрэбная зусім жывёла. Можа яе, гэтую жывёлу, можна і прагнаць унь туды: далёка-далёка, аж унь у той лес, што за нашым выганам?“

І ён расьпяразвае сваю папругу—хоча прагнаць злосьць. Але, што-ж гэта я яму, блазен ці што? Я ўжо ведаю, як гэта ён праганяе злосьць. І я загадзя яшчэ кажу бацьку, што ўжо няма чаго праганяць, што яна ўжо ўцякла й сама. І ён, бацька, тады толькі скрозь свае хітрыя вочкі ўсьміхаецца.

А яна ў мяне, гэтая злосьць, і сапраўды ні то сама па сабе, ні то я і сам ня ведаю ад чаго, а такі-ж і зьнікае нямаведама куды.

Ня без таго: я іду да стала і як трэба ўсаджваюся—бяру лыжку. Але я ўсё-ж хоць трошкі, а спаганяю яшчэ маю злосьць.

— Ты вось і пад‘есьці палюдзку ня ўмееш,—заўважваю я маёй старэйшай сястры Анці.—Па-а-рас-стаў-ля-а-ла локці на стале, як ліхтары, дый ліе, ліе на абрус гарачую капусту.

Мой бацька тут зусім згаджаецца са мною. Ён як мае быць падтрымлівае цяпер маю заўвагу.

II.

— Хоць ён мне й нераўня, але я дружу з ім. Гэта-ж з маім аднагодцам з Самуськом Кіпрыянчыкам.

Ён жыве цераз вуліцу ў старэнькай хаце. Мы-ж жывём у новай хаце. Вось чым ён мне нераўня. Праўда мы яшчэ ня скончылі зусім хаты і падлогі няма, дый сенцы яшчэ ня прыстаўлены. Але бацька кажа, што гэта пакуль што.

„Не пад сілу зрабіць усё за адзін год“,—кажа бацька.

Мы амаль што кожны дзень гуляем з Самуськом у коні, у закуту. Ён заплюшчвае вочы, а я хаваюся. Тады ён ідзе мяне шукаць, а на тым месцы, дзе ён закрываў вочы—ляжыць палка. І калі ён адыходзіць ад палкі — хоча ўбачыць дзе-небудзь, каб закаваць мяне (стукнуць палкаю, што ляжыць) я тады павінен дабегчы раней за яго і адказвацца (па перадзе за яго стукнуць палкаю).

Адным словам, мы вельмі ў двох дружым. Ня без таго, я часьцяком, калі мы гуляем, думаю сам сабе, што ён мне нераўня яшчэ і ў тым, што ён Апалонік.

Аб тым, што ён, Самусёк, яго бацька, матка і ўсе яны—Апалонікі, я дачуўся не выпадкова, а вось як:

Калі ў нас выходзіць соль (а на скорую-ж руку не паедзеш за дзесяць вёрст да мястэчка), тады мая матка кажа да маёй сястры Анці:

„Схадзі ты, дачушка, пазыч у Апалонікавых солі“.

Гэткім чынам я даведаўся аб тым, што іх, апрача прозьвішча Кіпрыянчыкавых, завуць яшчэ і Апалонікамі.

Калі я цяпер сяджу на лаве падкурчыўшы ногі, гляджу праз вакно на Самуськову хату, бачу як ён, Самусёк, выбег на вуліцу—дык я вось ужо зусім паміма маёй волі кажу:

— Мама, унь вышаў на вуліцу Самусёк Апалонікавых.

Я гэта кажу, каб давесьці маёй матцы аб тым, што і мне пара ўжо выходзіць. Але мая матка зусім не ўяўляе майго палажэньня. Яна вось што мае на ўвазе:

„Брыдка гэтак, сынок! Ня можна“, кажа матка да мяне. „Гэта-ж іх дражняць гэтак. Ня можна“.

І матка расказвае мне, што прадзед Самуськовага бацькі рабіў апалонікі. І вось яго за гэта з таго часу празвалі і завуць цяпер Апалонікамі ўвесь род.



*Дык гэта так яно?! Ён мяне будзе біць?*

Толькі аніяк я неяк не магу ўявіць аднаго: чаму маёй матцы можна называць Апалонікам тады, калі яна пасылае Аньцю па соль?

III.

— Хоць сонца паднялося высакавата, але я яшчэ ляжу ў пасьцелі.

Усё роўна: чаго там рана ўсшарэшвацца. Я ляжу і гляджу, як матка скідае з скаварады блін. Потым я пераводжу мой позірк—гляджу на нашу Рыску (кошку), якая сядзіць на комінку ды закладае лапу, зажмурваючы свае вочы, аж за самае вуха.

Цётка Алена, мусіць, прыедзе,—думаю я ды пераводжу свой позірк ужо ў другое месца,—на столь.

Я бачу, як па столі поўзае муха. І от цяпер у мяне паўстае пытаньне: „чаму яна, муха, не адкінецца ад столі, плячыма далоў? Гэта-ж, брат, дзіва: поўзае сабе, ды ня то што поўзае, а нават бегае і не адкідаецца? Што яе магнэс, ці што там прыцягвае?“—думаю лежачы.

Але вось праходзіць некалькі хвілін і я ў сваіх думках вырашаю аб тым, што мне трэба ўжо ўставаць.

Я падымаю галаву, пазяхаю для прыкляпу, пацягваюся. (Калі я пацягваюся, дык мая матка кажа, што я расту). Я акідаю позіркам мой ложак, каб адшукаць ды надзець мае штаны.

„Дзе яны закінуліся, гэтыя штаны?“—падымаюся і, неяк выпадкова, гляджу праз вакно.

„Ці гэта ў маім ваччу ад сну мітусіцца, ці гэта што?“

— Не, гэта не ад сну. Гэта ў сапраўднасьці!

— Такая то дрэнь!—выкрыкваю і саскокваю з ложку ды так, як ёсьць.

Не адшукаўшы маіх штаноў, саскокваю. Хіба я магу шукаць іх, калі тут цэлае забойства,—сьмерць на самым носе ўтвараецца?

Самуськоў певень—дзяркачык, так-то дзяркач, простага заводу, ды от цяпер да паўсьмерці забівае майго галагуна. Чорнага галагуцкага пеўня, з белымі падбародавікамі. Такога-та завадзкога пеўня ды да паўсьмерці забівае такая-та дрэнь!

У мяне як мае быць—ды ня варам, а нямаведама чым—кіпіць ад злосьці ўсё ў сярэдзіне.

— Такая-та жабуцька аблупленая, што каршун можа панесьці за адзін раз. На ўсім бягу разважаю, лятучы як мага на двор.

Маці толькі стаіць з чапялою—глядзіць на мяне ў зьдзіўленьні, чаго я, як апантаны, імчуся без штаноў.

І вось я цяпер рызыкую перад маткаю тым, што без мяне ніколі не дагледзяць чаго-небудзь як трэба.

„Каб ня я, дык і ня было-б,—бягу ды разважаю,—такога-та пеўня. І ў галаву ніколі ня прышло-б ім, каб паглядзець, дзе абварачваюцца куры“.

Ня без таго, мая матка ня вельмі здагадлівая на маю рызыку. Яна, я ведаю, што цяпер думае, калі я іменна выбягаю без штаноў, яна чорт ведае, што думае; яна думае, што ў мяне сапсаваўся жываток. І от за гэтым...

„Цьфу!“—яшчэ большай злосьці набіраюся я і вось зусім ужо набягаю...

— А-а-гг-га! папаўся такі...—хапаю я Самуськовага дзяркачыка за плечы.—О, брат, гэта табе не каноплі выдзіраць на маім агародзе! гэта табе ня тое, што к-к-во-о-каць—склікаць на мае каноплі, як найбольшую чараду курэй! гэта табе...—І я пералажу цераз плот,—іду так, каб ня ўбачыў Самусёк. Я цяпер зьвязваю дзяркачыку ногі і кладу яго ў садку, у крапіве. Потым я іду, прыганяю майго галагуна, у якога белыя падбародавікі зрабіліся чырвонымі, і спускаю пеўня ў канаву.

„О-то-то-ж, паглядзім цяпер, каторы каторага“, адышоўшы аж да плоту, разважаю сам сабе.—Пагля-а-дзім!

І от калі я цяпер стаю ды гляджу, як мой певень пылам падымаецца, аж цераз галаву перакульваецца,—бо Самуськоў, што хоча, каб адбіцца назад, толькі качаецца як клубок: ногі аніяк не варушацца,—дык вось—мне цяпер вельмі вялікае сьмяхоцьце.

— А-а-гга, каб ты здох!—гэта табе ня то што...

Але, нібы з-пад зямлі, у мяне з плячэй вырастае Самусёк і я, толькі сплёўваю—рушуся, каб разьняць пявунову бойку.

— На што ты яму ногі зьвязаў?—падыходзім мы разам да пявуноў.

— Які іх чорт вязаў: заблытаўся от...—нагінаюся, каб разьвязаць, і Самусёк з усяго размаху смаліць мне поўхаю ў правае вуха...

— Дык гэта так яно?! Ён мяне будзе біць? І тут-жа хацеў я кінуцца на яго, але дзе там было...

— Ап-па-лон-нік!—крычу я цяпер ад злосьці яму ўздагонку.—Ап-па-лон-нік!

„Ні за вошта не дарую,—вырашаю я,—не, брат“.

— Ого, што-ж гэта будзе, калі цябе ўсякая жаба пачне аплявухамі частаваць. Ого!—крычу я сам праз сябе.



*Самусёк стаіць на беразе побач са мною.*

І ў мяне цяпер у сярэдзіне, як у нас каля млына, бушуе пенаю злосьць.

IV.

Летні дзень. Сьпякота. У павітусе, што каля рэчкі, плачуць квактухі. Далей трошкі, у дзятліку, стракоча конік. Ціха наўкола.

І вось я—на гэтым беразе рэчкі.

І вось ён—на тым беразе.

Мы—вудзім рыбу. Нам ніхто не перашкаджае, ня пудзіць спрытных плотак. Мы пільна сочым за паплаўкамі, глядзім, нават, за іх дробнымі рухамі, ад якіх ідуць пацеркі-кружочкі.

Я ведаю, што яму хочацца гаварыць са мною. Я гэта бачу па яго твары. Ён вельмі часта адрывае вочы ад паплаўка—паглядае на мяне,—чамусьці нават бегае ўсьмешка па яго губах.

Я ведаю аб гэтым.

Але хіба я магу ўступіць пасьля таго... пасьля таго, каб ён мяне так-то, можна сказаць, абняславіў сваёю аплявухаю?

— Ні за што!

Калі ён глядзіць на мяне і нашы позіркі сустракаюцца, тады я раптоўна абрываю мой позірк. Я насупліваю бровы і нэрвова паторкваю за вудзілішча.

— Няхай думае, што ў мяне клюе,—разважаю і гэтым самым дапякаю я яму.

Пасьля выпадку з пеўнямі я зусім, нават, не хачу аж дагэтуль з ім знацца і ні разу не сустракаўся. Мала што ён на тым беразе цераз рэчку на тры вудзілішчы: рэчка не мая, няхай сабе вудзіць.

„Што я буду ўцякаць адгэтуль ці што,—разважаю—гляджу скоса на яго паплавок.—Што я буду... калі тут самы, што ні ёсьць рыбны пярэсмык на гэтым чвыры“.

Але калі я гляджу цяпер на Самуськоў паплавок, дык мяне бярэ вялікая зайздрасьць: я бачу як у яго ўсё, раз-па-разу, паторквае.

„Няўжо яму ізноў павядзе?...“

І не пасьпела ў мяне скончыцца думка, як у Самуська на кручку паказваецца палова нейкай вялікай рыбіны.

... паказваецца ды ізноў, ізноў...

— А!..—міжвольна вырываецца ў мяне раптоўны крык.—О-ой!..

— Сюды! ай, сюды!—тычу я маім вудзілішчам,—сюды-ж...

Калі я глядзеў, як паказвалася з вады Самуськова рыба, дык я ў той момант не заўважыў, як ён Самусёк, тузаючыся з фунтоваю, мусіць плоткаю, неяк пакаўзнуўся і паляцеў у ваду.

— Сюды-ж, кажу, от вудзілішча...—крычу я цяпер Самуську і ён... Вось схавалася яго галава...

... Ён гэтак сама ўмее плаваць, як`і я:—толькі на сітніковых паплаўкох.

... І от ізноў паказалася галава... яшчэ, яшчэ і... ён хапаецца рукою за канец майго вудзілішча.

Я цяпер ашчарэпіў абедзьвюма рукамі купіну—ляжу, з усяе сілы трымаю маё вудзілішча.

— Хаця-б ён вылез,—выступаюць у мяне з вачэй сьлёзы,—хаця-б...

Але не праходзіць і дзьвюх хвілін, як Самусёк стаіць на беразе побач са мною. Ён стаіць увесь зьбялеўшы, як палатно, і аніяк ня можа выгаварыць слова.

— Абмачыўся...—міжвольна кажу я і абы што, абы, каб не маўчаць, каб ня было нялоўка.

— Каб ня ты...—тою самаю ўсьмешкаю глядзяць на мяне яго вочы,—каб ня ты... Добра што ты... Я табе, як пяройдзем на той бок, самую лепшую аддам плотку—гледзячы зноў на мяне,—кажа Самусёк.

— Я цябе больш ніколі і пальцам не крану!.. Пачакаўшы трохі ізноў кажа ён.

І я, можна сказаць, толькі цяпер успамінаю сваю злосьць на Самуська. Мне цяпер ні то неяк сорамна за маю злосьць, ні то... я і сам ня ведаю, што.

І калі я яшчэ і яшчэ ўглядаюся ў яго заўсёды ўсьміхаючыся твар, дык мне неяк вельмі весела і радасна становіцца. Зусім адыходзіць ранейшая крыўда на Самуська.

Як рукамі зрывае хтосьці цяпер з майго нутра яе, гэтую злосную і непатрэбную скарынку злосьці.

---

# Ленін і Кітайскі кулі [1].

1.

У Пекіне людзі з розных краін,
У Пекіне шмат розных вуліц.
Па вуліцах доўга хадзіў Лі-Чан—
галодны кітайскі кулі.
Пасьля—на палёх... Дазорца злы,
штодня б'е балюча Лі-Чана.
З тых пор, як на поле прышоў Лі-Чан,—
ня сьпіна ў яго, а рана.

2.

На палёх, дзе расьце пахучы чай,
дзе нівы зелянінай адзеты,
аднойчы праежджы незнарок
згубіў лісток газэты.
Рабочы Лі-Чан пісьменны быў,—
прачытаў пра кріну такую,
дзе кіруюць вольнай старонкай сваёй
не мандарыны [2]), кулі.
На парваным газэтным лістку,
што ляжаў на дрыжачых каленях,
намалёваны быў старэйшы вольных тых,
і стаяла імя—Ленін.

3.

І бедныя кулі з тых пор на палёх
начамі, у таемнасьці строгай,



*Кітайскі селянін*

[1]) Кулі—чорнарабочы ў Кітаі.
[2]) Мандарыны—кітайская буржуазная кляса.

складалі дзесяткі прыгожых саг[1]),
як прыдзе к ім Ленін з дапамогай,
аб тым, што павінен быць зьнішчан
мандарын,
што з палёў рысу і чаю
Ленін скліча ў мяцежны, бурны Пекін
кулі ўсяго Кітаю.
Раскажуць яму кулі пра адвечны зьдзек,
што цярпелі яны ад мандарынаў...
І пачне кіраваць Кітаем з тых пор
улада працоўных краіны.

4.

Удзень—пад сонцам і пад кіём,
а ноччу—з газэтай на каленях
марылі кулі, шапталі аб тым,
хто ў Расіі завецца Ленін.
І доўга глядзелі на парваны лісток,
па прыжмураны погляд партрэту.
Доўга глядзелі, забыўшы пра кій,
на скамечаны аркуш газэты...

5.

Прагналі Лі-Чана. Ізноў ён папаў
у Пекін, няпрытульны горад.
Багата вуліц. Плыве натоўп,
Лі-Чана грызе голад.
Раптам чуе Лі-Чан газэтчыка крык,
што гучэў сумным захапленьнем:
— Памёр самы вялікі бальшавік
памёр у Расіі Ленін.—
Лі-Чан пахіснуўся, Лі-Чан пабляднеў,
пацямнела ў вачох у Лі-Чана;
Лі-Чан на ганку дома прысеў
у Лі-Чана вочы ў тумане.

6.

Памёр Ленін... А як-жа яны,
як-жа кітайскія кулі?..
Няўжо-ж і далей ім жыць, як раней,
пад кіём і пагрозаю куляў!

[1]) Сага—апавяданьне.

Памёр Ленін, той, што з газэт
падаваў да паўстаньня знак ім.
Ніколі ня плакаў Лі-Чан ад кіёў,
а цяпер ён горка заплакаў...



*Кітайскі комсамолец, замучаны і прывешаны да слупа японскімі войскамі.*

7.

Памёр Ленін, але пасеяў у душы
зерня надзеі на збавеньне.
Схамянуўся Лі-Чан—і ў сэрцы пачуў,
якоесь жывое імкненьне.
Пакрыўджаных кулі пачаў ён зьбіраць,
каб узьняць паўстаньне у краі,
каб скінуць уладу буржуяў ліхіх,—
жыцьцё тады шчасьцем зазьзяе...

*Пераклад з расейскае* **Я. Івашына.**



# ХАТНЯЕ ЖЫЦЬЦЁ РАБОЧАГА ЧАЛАВЕКА.

— Глядзі!—сказала маці, падняўшы ў гару палец.

— Тата!—закрычаў Франк, кінуўся да дзьвярэй і расчыніў іх насьцеж.

Ён прабег уздоўж калідору і адчыніў дзьверы на сходкі, пакуль Оўэн дайшоў да верху апошняе лесьніцы.

— Чаму ты заўсёды ўсходзіш так шпарка?—закрычала з дакорам жонка Оўэна, калі ён увайшоў у кватэру, зьнямогшыся ад хады па сходках і, задыхаючыся, апусьціўся на бліжэйшае крэсла.

— Я заў-жды за-бы-ваюся—адказаў ён, калі крыху ачуняў.

Лежачы ў крэсьле з адкінутай галавою, пахмурым і жудасна-белым тварам, Оўэн меў страшэнны выгляд.

Вада лілася раўчакамі з яго змоклае адзежы.

Франк з дзіцячаю баязьлівасьцю заўважыў моцны жаль, з якім маці пазглядзела на бацьку.

— Ты заўсёды так робіш,—сказаў ён з енкам.—Колькі разоў яшчэ будзе матка казаць табе аб гэтым, пакуль ты будзеш сам аб гэтым помніць?

— Усё адно,—сказаў Оўэн, прытуліўшы дзіцянё бліжэй да сябе і цалуючы яго кучаравую галаву.

— Слухай, зірні сюды і здагадаешся, можа, што я прынёс табе пад сьвіткай.

— Кацянё!—закрычаў хлопчык, выцягваючы яго з яго схованкі.—Усё чорнае, такое.

Вось якраз каго я хацеў.

Пакуль Франк забаўляўся, гуляючы з кацянём, якое хлебтала ўжо другую талерачку малака з хлебам, Оўэн пайшоў у спальню апрануць сухую адзежу...

Калі кацянё ляжала ў ложку, Оўэн сядзеў за сталом у адзінокім раздум'і.

Хаця гарэў камін у пакоі, але было вельмі холадна, бо ён быў вельмі блізка ад даху. Вецер моцна сьвістаў вакол шчыту, і так трос хату, што пагражаў кожную хвіліну скінуць яе на зямлю.

Абыякава паглядаючы на лямпу, ён думаў аб будучым.

Некалькі год назад гэтае будучае здавалася краінай дзіўных і таемных магчымасьцяй, але ў гэты вечар думка ня прыносіла ніякіх лятуценьняў, бо ён ведаў, што жыцьцё яго ў будучым будзе такое-ж самае, як і ў мінулым.

Ён усё будзе працаваць і працаваць, і ўсе яны ўтрох будуць пазбаўлены большасьці рэчаў, неабходных для жыцьця.

Калі працы ня будзе, яны будуць галадаваць.

Аб сабе ён вельмі не клапаціўся, бо ведаў, што ў лепшым ці ў горшым выпадку—гэта працягнецца ўсяго некалькі год.

Нават калі-б ён здолеў мець патрэбную ежу і адзеньне і клапатліва сьцерагчы сябе, ён не пражыве доўга, але, што стане з імі, калі надыйдзе гэты час?

Можна было-б спадзявацца на хлопца, калі-б ён быў дужэйшы і яго натура была больш злосная і жорсткая. Каб мець посьпех у сьвеце, трэба быць падобным на зьвера, сабелюбным і нячулым; адпіхаць іншых у бок і карыстацца іх няшчасьцем [1]).

Оўэн ўстаў і пачаў хадзіць па пакоі, яго прыгнятаў нейкі страх. Пасьля ён падышоў да коміну і паправіў свае вопраткі, што тамака сушыліся. Ён угледзеў, што боты былі пастаўлены вельмі блізка да агню і сохлі так хутка, што на адным з іх падноскі пачалі адлазіць ад верху. Ён як толькі мог паправіў іх, і пасьля, паварочваючы вопраткі макрэйшым бокам да вагню, заўважыў газэту ў кішэні камізэлькі. З радасьцю ён выцягнуў яе адтуль. Ёсьць што-небудзь, чым ён можа расьсеяць свае думкі.

Але, як толькі ён разгарнуў газэту, яго ўвагу прыцягнулі блішчастыя літары загалоўку аднае з першых калёнак:

„Жудасная сямейная трагэдыя. Забіты жонка, двое дзяцей. Забойца пакончыў самагубствам“...

Гэта было адно з звычайных злачынстваў беднасьці.

Чалавек быў бяз працы шмат тыдняў, і яны пазакладалі альбо папрадавалі ўсе свае хатнія рэчы. Але, нарэшце, гэтыя сродкі былі выбраны, і аднаго дню суседзі заўважылі, што фіранкі вокан так

[1]) Так і робяць усе тыя, хто раскашаецца ў жыцьці за кошт бедных, абяздоленых людзей, за кошт пролетараў.



*Цела чалавека знайшлі ў кухні...*

і застаюцца не паднятымі і вакол хаты пануе дзіўная цішыня.

Калі паліцыя ўвайшла туды, яны знайшлі ў адным пакоі на гары няжывое цела жанчыны і дваіх дзяцей з перарэзанымі горламі. Яны ўсе ляжалі адзін ля аднаго на матрацы, які быў вымачаны ў іх крыві.

У пакоі ня было ні ложка, ні якоенебудзь іншае мэблі ці рэчаў, за выключэньнем саламянага матраца, падраных вопратак і коўдры на падлозе.

Цела чалавека знайшлі ў кухне. Ён ляжаў, распасьцёршы рукі і ўткнуўшыся тварам у падлогу,—вакол яго разьлівалася лужына крыві са страшэннае раны ў горле, якая была, відаць, зроблена тым самым нажом, што быў заціснуты ў яго правай руцэ.

Ня было знойдзена ніводнага кавалачка якое-небудзь скарынкі, толькі на цьвіку на сьцяне ў кухні вісеў кавалачак запэцканай крывёю паперы, на якім было напісана:

„Гэта не маё злачынства, але грамады“.

Далей у допісе тлумачылася, што гэтае жудаснае злачынства было зроблена, мусіць, у прыпадку часовага шаленства, які надыйшоў, як вынік тых мучэньняў, якія цярпеў гэты чалавек.

— Шаленства! — мармытаў Оўэн, чытаючы гэтую лёгкую тэорыю.— Шаленства! Мне здаецца, што ён быў-бы шалёным, калі-б не забіў іх. Што мог ён інакш зрабіць?

Бязумоўна, куды разумней і лепей і дабрэй іх усіх супакоіць, чым пакідаць на далейшыя мучэньні.

Але разам з гэтым здавалася дзіўным, што чалавек мусіў абраць чамусьці такі шлях, каб зрабіць гэтае, калі было так многа іншых чысьцейшых, лягчэйшых і менш балючых спосабаў для выкананьня яго справы.

Можна было ўзяць атруту. Бязумоўна, дастаць атруту досыць цяжка і, апрача таго, трэба быць асьцярожным, каб ня ўзяць атруты, якая прынясе шмат болю.

Оўэн падыйшоў да кніжнае шафы і выцягнуў „Энцыклёпэдыю практычнае мэдыцыны“, нямаведама з якіх часоў старую кнігу, у якой ён думаў знайсьці адпаведную даведку.

Ён зьдзівіўся, калі знайшоў у кнізе шмат відаў атруты, дастаць якія было вельмі лёгка. Ён знайшоў там таксама атруты, якія робяць сваю справу пэўна, хутка і бяз ніякага болю.

Нават ня было патрэбы купляць іх: іх можна назьбіраць на дарозе, або на полі.

Чым больш ён думаў аб гэтым, тым больш дзіўным здавалася яму, што такі

нязграбны спосаб, як нож, мае такое шырокае ўжываньне.

Задавіцца або павесіцца ўжо куды лепш, чым гэтае, але наўрад ці можа быць ўжыты апошні спосаб у іхняй кватэры таму што ў ёй няма ніводнае балькі, або перакладзіны, ці чаго небудзь іншага, на што можна было-б пачапіць вяроўку. Але ён можа ўбіць некалькі вялізных цьвікоў або крукоў у сьцяну. Таксама і цяпер, ужо ёсьць на дзьвярох некалькі цьвікоў для вопраткі.

Ён пачаў думаць, што гэткі спосаб будзе куды больш дасканалы, чымся атрута. Ён можа сказаць Франку, што зьбіраецца паказаць яму якую-небудзь новую гульню, хлопчык зусім ня будзе працівіцца і за некалькі хвілін з ім будзе ўсё скончана...

— Тата! Тата!..

Оўэн сьпешна адчыніў дзьверы.

— Ты завеш мяне, Франк!?

— Ага! Я клічу цябе вельмі доўга.

— Чаго ты хочаш?

— Я хачу, каб ты падыйшоў сюды. Я хачу табе нешта сказаць.

— Добра! Ну, што даражэнькі? Я думаў, што ты даўно ўжо сьпіш,—сказаў Оўэн, уваходзячы ў пакой.

— Вось аб чым я хацеў з табой гаманіць. Кацянё добра сьпіць, але я ніяк не магу. Я ўжо ўсё спрабаваў, і лічыў і ўсё, але ўсё адно нічога, дык я надумаўся папрасіць цябе, каб ты прышоў і застаўся са мною і даў трошкі мне патрымаць тваю руку, можа тады я засну.

Хлопчык абвіў свае рукі вакол Оўэнавае шыі і сьціснуў яе вельмі моцна.

— О, тата, як я люблю цябе!—казаў ён.—Я люблю цябе так моцна, што я гатоў цябе задушыць да сьмерці.

— Я думаю, што так,—глуха адказаў Оўэн, затыкаючы коўдру за плечы дзіцяці.—Але досыць табе гаманіць, даражэнькі. Толькі трымай маю руку і старайся заснуць.

Лежачы цяпер зусім спакойна, трымаючы бацькаву руку і выпадкова цалуючы яе, дзіцянё хутка заснула...

Оўэн ляжаў, прыслухоўваючыся да завываньня ветру і да гулу дажджу, як ён цяжка ліўся на страху.

Але ня толькі навальніца не давала яму спаць.

Праз цёмныя гадзіны ночы яго думкі яшчэ кружыліся вакол таго кавалка запэцканай крывёю паперы на сьцяне ў кухні:

„Гэта не маё злачынства, але грамады“.

З ангельскае А. М.



*Трымай маю руку і старайся заснуць.*

# ПРЫГОДЫ ЎСЕАТРАДНАГА ПОЭТА І ПІКОРА КАПЕЙКІНА

*АЛЬБО ЛЯГЕРНЫЯ ЎРАЖАНЬНІ КАПЕЙКІНА*

І шмат чаго цікавага адбылося ў нашым лягеры з таго часу, як я пісаў Вам, тав. рэдактар, было і добрага і дрэннага. Прынамсі за дрэннае палічылі ў нас здарэньне з Пятруком і качкамі. Але як сказаць. Я, напрыклад, трымаюся тут поўнага нейтралітэту—не кажу, што добра, не кажу, што й дрэнна.

Каб Вам было ясьней, я раскажу больш падрабязна, у чым тут рэч.

Аднойчы наш атрад наладзіў экскурсію ў мястэчка. Быў базарны дзень. Мы ўзялі з сабой рознай Мопраўскай літаратуры і павінны былі прадаваць яе сялянам, а адначасна і вербаваць новых членаў Мопру. Усё йшло вельмі добра. Спацеўшыся, але бадзёрыя ад усьведамленьня вялікасьці абавязку гальцалі, як каты, нашы хлопцы ад воза да воза, горача агітавалі кожнага. Бывала, што цэлую лекцыю даводзілася прачытаць таму ці другому селяніну, каб схіліць яго купіць кніжку ды запісацца членам Мопру.

Але затое ўвечары колькі гаворкі, колькі радасьці было ад багатай па колькасьці працы. Прызнацца, мы нагэтулькі пасьпелі за дзень, што ня толькі раённы камітэт Мопру, а нават і РВК нам вынесьлі падзяку.—Мы працавалі, можна сказаць, самаахвярна!—Крычаў я перад зборам увечары. Бо ці-ж гэта не геройства бегаць каля брыклівых сялянскіх коняй і не баяцца іх?

З мяне трохі пасьмяяліся, але збольшага і згадзіліся.

Дык вось у гэты самы дзень і здарылася тая няпрыемнасьць каччынага характару.

Яшчэ ў поўдзень мы заўважылі, што з намі няма Пятрука—нашага „хлебапрадукта“, як празвалі яго піонэры. Ён у нас начальнікам па кухеннай часьці.

Увечары выявілася вось што.

На адным возе ў селяніна Пятрук нагледзеў дзесятак добрых качак. „Ото-ж думае вячэра была-б для лягеру!“ Купіць—грошы няма на такую раскошу. „Дай, думае ён, зраблю я так, каб і качкі былі на вячэру і грошы цэлы“. І зрабіў. Як яму прышла ў галаву гэткая думка, ён і сам ня ведае. Але яно звычайна так бывае, што калі што-небудзь пільна прыпрэ, дык адкуль тады й розум возьмецца, каб скеміць, як і што зрабіць у такім выпадку. Пятрук доўга не раздумваючы, прымае важную міну знаўцы ў каччыных справах і пачынае зьбіваць цану.

— Па 3 рублі за штуку даёш?

— Мала,—гнецца селянін, але, відаць, хоча аддаць за такую цану.

— Рубель пакідаю за дарогу. Вязі ў саўхоз С.

Словам, праз колькі хвілін яны былі ўжо ля саўхоза.

Каб ня страціць маркі, Пятрук праз усю дарогу заводзіць важнецкія гутаркі з селянінам і імкнецца выявіць сябе як самага вялікага чалавека ва ўсіх справах сялянскага жыцьця. Але гэта толькі, зразумела, для адводу вачэй. Бо Пятрук у нас звычайна лічыўся самым дрэнным піонэрам. Яго толькі з месяц назад як прынялі ў атрад. І за гэты месяц ён пасьпеў шмат каму насаліць нават з сваіх таварышоў. Словам, Пятрук у нас хлопец хуліганскі, мякка кажучы. Ён яшчэ не пасьпеў пазнаць, што такое піонэр і як піонэр павінен жыць і працаваць.

Дык вось пад‘ехалі яны і пад саўхоз. Ля саўхозу бяжыць невялічкая рэчка.

— Скідай іх у рэчку!—кажа Пятрук селяніну.—Я зараз-жа дастану з кішэні грошы. Тут яны нідзе ня дзенуцца. Мы іх паловім.

Даверлівы селянін спыніў каня, разьвязаў качак і, адну за другой, паскідаў іх у рэчку.

— Ну, гані трыццаць адзін руб...—аглянуўся селянін у бок Пятрука, калі выпусьціў апошнюю качку, якая з крыкам і радасьцю памчалася даганяць сваіх сясьцёр.

Але тут-жа ён, селянін, і зьбялеў на месцы: Пятрука нідзе і духу ня было.

Здагадаўся дзядзька, у чым справа: Пятрук яго „падвёў“. Што-ж рабіць? Палавіць качак у такой рэчцы аднаму зусім не магчыма. Адрачыся—таксама ня выпадае...

Сеў дзядзька на беразе, адпрогшы каня, ды й думае, клянучы падшывальца, жуліка.

Падыходзіць неўзабаве да яго комсамолец тутэйшай ячэйкі.

— Што дзядзька качкі сюды прывёз пасьвіць?—пытае комсамолец Міша.

— Ах, ты... вылаяўся селянін,—яшчэ жартуе... Гэта-ж з вашай хэўры нехта падвёў так мяне пад дурнога хату.

Міша аслупянеў: „што, у чым справа? Нічога ня ведаю...“

І дзядзька расказаў яму, скрозь сьлёзы, гэту плачэўную для яго гісторыю.

Міша ўважліва выслухаў і параіў дзядзьку чакаць вечара.—Увечары прыдуць піонэры з гораду і мы табе паможам.

Праўда, яно так і было. Усіх качак мы пералавілі паклалі на дзядзькаў воз, які, шчыра дзякуючы нам, галёпам пагнаў каняку дамоў, бо ўжо сонца зусім было на захадзе. Пятрука, зразумела, мы прыцягнулі да адказнасьці.

### Як мы адпачывалі.

Адпачынак па думцы шмат якіх удзельнікаў лягеру павінен быў выявіцца ў загараньні. Кожны хацеў як мага чарней загарэць.

А каб гэтая загара раней прыстала, шмат хто пускаўся на розныя хітрыкі. Той самы Пятрук, які хацеў дарэмна бяз бяз грошай „купіць“ качкі, нават перастаў мыцца ў чыстай вадзе, а плюхаўся заўсёды ў гразі. Гразь, па яго думцы, падавала цэлу жоўта-чорны соўнечны загар вышэйшага гатунку.

Некаторыя націраліся жоўтымі лістамі з сокам.

Як на ліха амаль праз увесь час скўпілася сонца. Выблісьне, як злодзей, ды зноў у свае анучы хмарныя хаваецца. Ото-ж ужо лаяліся хлопцы на сонца. Выдумлівалі пра яго розныя нябыліцы, розныя байкі. Адны даводзілі, што сонца ўжо зусім патухае і таму ня можа сабой прабіваць і разганяць хмар, другія, што сонца наогул ня спрые піонэрскаму лягеру і таму так хаваецца...

Аднойчы мы наглядалі такі малюнак. Сьцёпка Серабранскі і Мікола Камароўскі адышліся ў кусты разлажылі агонь і апекваюць свае косьці—гэта азначае, што яны „загараюць“. Доўга сьмяяліся хлопцы з іх загараньня.

Але што бывала ў тыя дні, калі ністуль-ні-адсюль выходзіла сонца на цэлыя гадзіны! Тады, пачынаючы з вечара, праз усю ноч енчалі ўсе, ад болі скуры. У некаторых скура зусім злузалася і вырысла новая. Такіх мы празывалі „ліні“, ад слова ліняць і адносілі іх да катэгорыі жывёлаў, якія ў летку мяняюць сваю шэрсьць. Кожны меў сваё імя: адзін заяц, другі — белка, трэці — проста „падласы“ (бык)...

Санітарны нагляд вёў, зразумела, барацьбу з усім дрэнным, дамагаўся правільнага правядзеньня адпачынку.

Толькі-ж не заўсёды ўдавалася гэта, каб працаваць па плянах.

Больш усяго ў часы адпачынку цікавіліся рознымі апавяданьнямі, байкамі, колектыўна рашалі задачы з „Бел. Піонэра“. Пару разоў (па нядзелях) да нас прыходзілі піонэры з бліжэйшай вёскі. Мы разам з імі гулялі, весяліліся, сьпявалі... Дні такія праходзілі зусім незаўважанымі, яны здаваліся гадзінамі.

Найбольш цікавым было для нас—гэта сумесны з вяскоўцамі начлег.

На гэтым начлезе мы ставілі пад сьвет агнёў інсцэніроўку аб тым, як адзін вясковы хлопчык апынуўся на службе ў кулака, як той біў хлопчыка. Нарэшце гэты хлопчык уступае ў піонэры, якія абараняюць правы ўсіх бедных дзяцей.

### На полі.

Наш лягер наладзіў сувязь і з вясковай беднатой. Мы даведаліся, хто ў вёсцы з беднаты ня мае свае рабочае сілы. У гэткія сем'і мы сяды-тады падсылалі з лягеру дапамогу.

Аднаго разу мы ўсе пашлі памагаць вынесьці сена з голага балота на сухі поплаў аднаму беднаму селяніну, сын якога адбывае службу ў Чырвонай арміі.

Сена трэба было насіць вяроўкамі і посьцілкамі праз топкія гразкія стругі. На стругах былі паложаны вузенькія, як аднаму чалавеку прайсьці, кладкі.

Мы набралі ўсе сена і панесьлі, асьцярожна апіраючыся каламі аб гразь. Дайшлі да самай сярэдзіны стругі, якой горш за ўсё баяліся сяляне, бо сярэдзіна была вельмі глыбокай і ўскочыць туды ўсе баяліся.

Мікола Камароўскі йшоў наперадзе, мы —за ім. Раптам чуем дзікі крык. Гэта пярэдні Мікола сашчаўкнуўся і—паляцеў з кладкі. Прызнацца, ад крыку мы перапалохаліся і некаторыя ад страху не ўстаялі на досыць сьлізкай кладцы... паляцелі ў стругу. Пярэднія-ж кінуліся ратаваць Міколу, які ўскочыў ў гразь аж па самую шыю і плёхаецца ў гразі як, не раўнуючы, япрук у раўчуку. Ледзьве выбраліся з гэтай стругі. Павылазілі ўсе з гразі, нікога не пазнаць было. Але сена ўсё-ж такі павыносілі. Пасьля гэтага аж да вечара мыліся ў рацэ і сушыліся на сонцы.

А раз мы, гуляючы на балоце, сагналі зайца. Заяц спаў у кусьце блізка ад ракі. Рэчка паўкругам абвівала балота. Заяц як толькі ўскочыў спрасонку, дык не разабраўся, куды лепш усяго ўцякаць і шмыгнуў у бок рэчкі. Мы-ж у гэты час раптам як па камандзе рассыпаліся з працілеглага боку і перагарадзілі дарогу зайцу ў бок балота. Падняўся такі гармідар, што бедны заяц прымушаны быў скочыць у рэчку. Але, відаць, ён дужа баяўся вады і плаваць ня ўмеў. Тут-жа ў рэчцы яшчэ жывога злавілі мы яго. Колькі пасьля гэтага было гаворкі ў лягеры. Зайца мы трымалі ў катусе, кармілі яго і потым зарэзалі к абеду. Самыя большыя порцыі мяса атрымалі тыя, хто лавіў, у тым ліку і я.

**Мы зьбіраемся ехаць...**

Як ня шкода расставацца з прывольлем палёў, з рознымі вясёлымі прыгодамі, з шчасьлівым жыцьцём пад адчыненым небам у цішы сярод прыроды, але ўсё-ж гэты час прышоў...

Наша матар'яльная база надыходзіць к канцу. Сёньня калі я гэта пішу, ужо нават абвясьціў павадыр, што к вечару накіроўваемся на станцыю.

Сёньня самы шумны дзень. Усе бегаюць, сьпяшаюцца. Падводзім вынікі сваіх лягераў. Хвалімся адзін другому, наколькі хто паправіўся, як хто загарэў, што прарабілі ў лягерах.

Усе адчуваюць прыбытак энэргіі і сілы. Я каб даказаць, што падужаў, выклікаў на французскую барацьбу Абрашу, які заўсёды хваліўся, што паваліў-бы мяне, каб гэтага захацеў. Я, зразумела, трохі скоса паглядаў на яго за гэткую агітацыю.

Цяпер-жа я парашыў раз на заўсёды даказаць сваю сілу. Няўжо ён, гэты Абраша, яшчэ раз пераможа мяне,—думаю я. Хопіць ужо таго, што з вершамі падвёў.

І вось пачалася барацьба. Вы не ўяўляеце, колькі пацехі прынесла яна для ўсіх.

Доўга мне з Абрашам вадзіцца не давялося. Раз-два і абярнуў я яго ў мяккую траву.

Паўтараць барацьбу Абраша не захацеў і цалкам згадзіўся, як і ўсе, што я за час лягераў зусім стаў дужым і што мне недалёка да самага сапраўднага Васі Буравога.

Я зусім не расказаў вам аб сваіх Гары Пілях і Дугласах...

Амаль ня кожны стараўся выявіцца якім-небудзь славутым героем, падобным да Піля ці Дугласа. Прабавалі рабіць нават выпярэдніцтвы, хто каго пераможа. Аднойчы змагаліся за пяршынство самыя заядлыя скакуны—Міша і Саша. Месца выбралі—вялікую канаву, мэтры тры шырынёй. Умова была такая: хто з разгону трыццаці шагоў пераскочыць гэту канаву, той і атрымлівае пяршынство і мае права называцца атрадным Гары Пілем. Калі-ж пераскочаць абодва — перавага астаецца за тым, хто, па думцы экспэртнай камісіі, выканае гэта з большай вытрыманасьцю і сьмеласьцю.

І ўявеце сабе абодва нашы Гары з разгону самым далікатным чынам селі ў гразь... канавы, не пераскочыў ніводзін.

На гэтым я канчаю. Даўно ўжо мяне клічуць складаць рэчы. Мы едзем з лягераў.

Усеатрадны піокр **Капейкін.**

# ВЯСЁЛАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

*(З дзеньніка лягеру пры саюзе Працасьветы ў г. Менску).*



**Вызначылі сваю працу (10-VII).**

Зьвяно сваю працу праводзіла ў лесе. Прысутнасьць піонэраў на збору была поўная. Надвор'е было надзвычайна добрае: гэта таксама спрыяла нашаму збору. На гэтым зборы мы павінны былі выпрацаваць плян працы нашага зьвяна на цэлыя два тыдні. Але-ж піонэры, выходзячы з таго, што трэба плян будаваць як мага прасьцейшы для выкананьня, парашылі апрацаваць яго толькі на адзін тыдзень—што было і зроблена.

У плян намі былі ўнесены наступныя моманты:

1. З мэтай азнаямленьня з дзецьмі, якія да нас прымацованы—зрабіць 10 ліпеня а 5 гадзіне ўвечары прагулку ў вайсковыя лягеры.

2. 11-VII-28 г. Зрабіць паход у вайсковыя лягеры, прысьвяціўшы яго дню вызваленьня Беларусі ад белапалякаў. (Для выкананьня гэтага-ж пункту мы зараз-жа абралі камісію з 3-х асоб,—для падбору розных гульняў.

3. Для лепшай сувязі з вясковымі дзецьмі 12-VII правесьці адпаведныя гульні і сьпевы і 13-VII збор зьвяна правесьці разам з вясковай дзетварой.

4. 14-VII зьвяно ідзе па ягады.

5. У нядзелю 15-VII-28 г. ў саўхозе правесьці зьвяном гульні і сьпевы, з тае прычыны, што там зьбіраецца шмат вясковых дзяцей.

У выпрацоўцы пляну піонэры прымалі актыўны ўдзел—кожны ўносіў свае прапановы.

Пасьля таго, як быў складзены новы плян, мы з новым ажыўленьнем распачалі сьпяваць песьні. Сьпевы цягнуліся датуль, пакуль ні пачуўся гул бубна. Усе кінуліся ў лягер.

**Да нас прышлі госьці.**

У нашым лягеры цішыня. Усе піонэры сьпяць салодкім сном. Але нечакана пачуўся голас: „Да нас прыйшлі госьці!“ У піонэраў было жаданьне ўстаць, але нашы павадыры забаранілі ранейшы, чымся трэба, пад'ём. Аднак мы ўжо не спалі і толькі чакалі, калі нас пачнуць будзіць. Прышоў свой час і ўсе былі на нагах—прывіталі прыйшоўшых гасьцей; троху пагутарылі; потым пачалі арганізоўваць гульні, у якія і было ўцягнута шмат нашых гасьцей—вясковых дзяцей. Адчувалася ў гэты час моцнае адзінства паміж намі і вясковымі дзецьмі.

Прыйшла вячэра; цягнулася яна 10—15 хвілін. Пасьля вячэры мы ўсе пайшлі разводзіць кастры. Тут ізноў пачаліся сьпевы.

Гэтак цягнулася да позьняе пары. Агні нашы пачалі ўжо тухнуць. Хаця нам і не хацелася ісьці, але-ж прыйшлося гэта зрабіць. Ідучы да хаты, мы зноў сьпявалі.

Дзень быў сапраўды днём моцнае спайкі паміж намі і вясковымі дзецьмі. Гэта быў запраўдны фундамант далейшае нашае працы па сувязі з вясковымі дзецьмі.

### У лес, па ягады.

Раніца. Ідуць спрэчкі: якое зьвяно возьме рэкорд па зьбіраньню ягад. Усе чакаюць хутчэй сьнеданьня, каб потым пайсьці ў ягады.

Сонечны дзень яшчэ болей вабіў піонэраў у лес. Пасьнедаўшы, кожны пачаў клапаціцца, каб дастаць большы кубак ці конаўку.

Падрыхтаваўшыся, мы зьвеньнямі накіраваліся ў лес, за дзьве вярсты.

У лесе мы падзяліліся на два конкурсныя зьвяны. Ягад было шмат, таму зьбіраць было ахвотна. Нашы пасудзіны хутка пачалі паўнець.

Пасьля некаторага часу нашае працы, мы накіраваліся дамоў—у лягеры.

### У вайсковыя лягеры.

Раніцай ужо кожны ведаў, што сёньня накіроўваемся ў вайсковыя лягеры. Нас цікавіла, як нас там сустрэнуць.

Прышоў час адыходу. Усе сталі ў агульную калёну; затрашчаў бубен і калёна з чырвоным сьцягам пайшла ў вайсковыя лягеры.

Хутка мы пачулі стрэлы—-гэта сьведчыла, што мы ўжо падыходзім блізка да нашае мэты.

Цяпер пераязджаць на дзіравым чоўне праз раку мы не адважыліся і пайшлі далей да цэлага чоўна.

У лягерах нас сустрэлі вайсковыя таварышы. Каля самых палаткаў мы троху адпачылі. Пасьля пайшлі, хто на гіганты, хто на качэлі, а некаторая частка наладзіла гутарку з чырвонаармейцамі.

Палуднаваць дахаты схадзіць мы ўжо не пасьпелі-б, і таму папалуднавалі ў чырвонаармейскай сталоўцы, а потым пайшлі на спэктакль, які ставіўся чырвонаармейцамі, пасьля спэктаклю мы ізноў накіраваліся дахаты. Нас пайшлі праводзіць два чырвонаармейцы.

Прышлося пераязджаць раку ў дзіравым чоўне. Села нас адразу 9 чалавек. На самым глыбокім месцы човен зашугаўся і пачаў апушчацца ў ваду. Некаторыя перапалохаліся. Пачаўся крык. У ваду кінуліся чырвонаармейцы і больш дарослыя нашы хлопцы. У выніку скончылася ўсё добра. Нават настрой у нас ня ўпаў. Мы ўсё-ж парашылі аб гэтым здарэньні нікому не гаварыць.

Са сьпевамі пайшлі далей.

Не даходзячы да лягераў, нас пачалі сустракаць нашыя бацькі, якім-та чынам яны ўжо даведаліся аб здарэньні. Але, калі ўбачылі, што мы вясёлыя то й самі павесялелі і разам з намі пайшлі ў лягеры.

### Дзень у Каралішчаве.

На лінейцы сёньня нам сказалі, што мы пасьля сьнеданьня пойдзем у Каралішчава, дзе павінны будзем сустрэцца з піонэрамі другога лягеру і супольна правесьці час.

Перш чымся вайсьці ўсёй калёне, вышла наша разьведка. Гэтае-ж самае зрабіў і атрад, які йшоў нам насустрэч.

Прывітаўшыся, мы ўсе селі, каб трошку адпачыць. Пачаліся сьпевы. Пасьля адпачынку ўсе разам пайшлі ў лес, дзе і падзяліліся па групах. У лесе-ж мы пазнаёміліся з жыцьцём нашых суседзяй і расказалі ім пра сваё жыцьцё.

Пагутарыўшы з нашымі таварышамі пад'еўшы трошку ягад, мы атрадамі, разьвітаўшыся, пайшлі дахаты.



*Лягерныя рыбаловы.*

# Не заводзь у хаце бруду.

*(Жывая газэтная „Пятрушка“).*

**Прымаюць удзел:**

*Пятруська, міліцыянэр, хатняя працаўніца Мар‘я, піонэры: Яська, Маня, Кім і Акцябрына.*

*(На сцэне толькі два крэслы).*

1-шы абразок.

Пятруська *(выскаквае, схапіўшы сябе за вушы)*. Я Пятруська фі-фа-фос—Чырвоны нос. Злавілі мяне, Пятруху, далі мне па вуху (*хватаецца за вушы)*. Ой, як гарадь, ледзьве ўцёк ад тых зараз *(бяжыць і сустракаецца з увaходзячым міліцыянэрам. Адскаквае)*. Ох! Ах! Цяжка дужа! Гэта што за птушка? *(пазнае, кідаецца яго абнімаць)*. Міліцыянэр, галубок...

Міліцыянэр *(грубым голасам)*. Што з вамі Пятруська? Рукамі размахаліся, ува ўсю раскрычаліся... У нас тут цішыня і парадак, вяльможны, крычаць ня можна.

Пятруська (*плача)*. Міліцыянэр, міліцыянэр. Пакрыўдзілі Пятруську! Я па вуліцах гуляў, змарыўся, ісьці не магу. Бачу хата на тым рагу. Думаю, зайду, адпачынак знайду. У хаце парадкі, усё ў гару дном, аж гадка. На стале нямытыя талеркі, відэльцы, лыжкі, салянкі, шклянкі, пялёнкі, кардонкі... на стале вакса, лямец, а тут-жа вялікая пляма. На падлозе сьмецьце, быццам год ня мецена. Ах *(пачынае рабіць выгляд, што прыбіраецца)*, я загуляў, забегаў, заскакаў, у паўгадзіны ўсё прыбраў.

Ня мог на нагах стаяць, сеў адпачыць, задрамаць *(садзіцца на крэсла)*. Раптам... дзьверы затрэсла, я ад страху на крэсла *(ускаквае на крэсла)*, палез на столь ды ўніз і зьляцеў *(хватаецца за шыю)*, як мой загрывак уцалеў? *(саскаквае з крэсла)*. Выбеглі хлопцы, давай на мяне крычаць, і разгарэлася сапраўдная бойка (*плача*), і...і...і...о...о...о..! Надавалі мне кухталёў. Таварыш міліцыянэр, сядайце, лепшае мейсца займайце!

Зараз вам пакажам, лепш чым раскажам... Вось ведайце, як піонэры іншы раз вядуць парадкі ў сваёй хаце, як яны іншы раз эксплёатуюць чужую працу (*да гледачоў*).

А вы сядайце і на вус сабе матайце: піонэр павінен памагаць у хатняй рабоце, добра дом даглядаць, гэта і яго клапоты *(падбягае да дзьвярэй, адчыняе іх)*.

Калі ласка, забіякі ды задзіры!
Мне ня страшны вашы бойкі—кажу шчыра.

2-гі абразок.

(*Убягае Маня і Ясь. Маня трымаецца за Яся).*

Ясь *(наскаквае на Пятруся)*. Хто цябе запрашаў у нашу хату? Хто табе дазволіў у нашай хаце камешкацца?

Маня *(высоўваецца з-за Яся*). Так, так, так!

Пятруська *(наступае на іх, яны адступаюць)*. Я, Пятруха фі-фа-фос, Чырвоны нос, усюды гуляю, за парадкам назіраю. Наскочыў на грэзь, ледзьве ногі выцяг...

Ясь. Мне аб хатнюю работу рукі гнюсіць?

Маня. Мне талеркі прыбіраць, насіць?

Ясь. Мне дровы калоць?..

Абое (*паказваюць Пятрусю насы)*. Вось... табе... вось... вось...



П я т р у с ь к а. Ах, які разрух! Піонэры называецца! Што-б вас!.. Нашто-ж гэта падобна? (*Наступае на іх).* Бацька і маці на працы, у Мані повен рот клапот, а яны памагаць дома ня хочуць!

(*Улятае Мар'я, у яе венік, сякера, ануча, вядро, пад пахаю клунак з дзіцем. Ад зьнямогі падае на крэсла*).

М а р ' я. Ох! Цэлы дзень працавала, повен рот клапот (*хапае вядро*): вады насі! (*хапае сякеру*), дроў насячы! (*хапае дзіця*), дзіця накармі! (*паказвае на дзяцей*). А гэтыя гультаі, распусты, памагаць ня хочуць. Вон адгэтуль! Мяцёлкай, мяцёлкай выганю гультаёў. (*Вымятае аднаго*). Мяцёлкай, мацёлкай вымяту другога! (*Вымятае другога*).

П я т р у с ь к а. (*забірае ў Мар'і вядро, шчотку і лаханку*). Ах, Мар'ячка! Ах, галубачка! Я табе памагу, тваю пасуду дахаты данясу. Я хоць Пятруха фі-фафос, Чырвоны нос, але такім гультаем ня рос. (*Даводзіць Мар'ю да дзьвярэй, зьвяртаецца. Міліцыянэру*). Я зараз вярнуся. (*Гледачу*) Я зноў прытаюся. Спакойна сядзеце. (*Адыходзіць*).

М і л і ц ы я н э р. Ах, які непарадак! (*Да гледача*). Нядобра хлопцы робяць, дома не памагаюць.

### 3-ці а б р а з о к.

(*Музыка. 3-за сцэны выходзіць Пятруська з мятлою, Акцябрына з жалязкам, Кім з сякераю і вядром. Да іх далучыўся міліцыянэр. Агульная маршыроўка*).

У с е р а з а м.

Хто ня любіць працаваць,-ваць-ваць,
Той ня можа піонэрам стаць-тацьтаць.
Мы імкнемся ўсе да працы-ацы-ацы,
На гульню мы час ня трацім-ацім-ацім.
Моцна мы трымаем лейцы-лейцы-лейцы
Ды іграем на жалейцы-лейцы-лейцы.

(*Робяць выгляд, што іграюць на жалейцы*).

Тылі—тылі—тылі, бом, бом, бом!
Дый у нас жа-ж дом, дом, дом.
Дома трэба працаваць-ваць-ваць,
Дарма часу не псаваць-ваць-ваць.

П я т р у с ь к а.
(*Робіць выгляд, што мяце падлогу*).

Я Пятрусь сьмецьце мяту-ту-ту,
Я іграю у дуду-ду-ду.
Тылі-тылі-тылі-тылі,
Усіх гультаёў раскалацілі.



А к ц я б р ы н а
(*робіць выгляд, што гладзіць*).

Выпрасую я жалязкай-лязкай-лязкай,
Зраблю ў хаце я парадкі-адкі-адкі.

(*Апошні склад паўтараюць усе*).

Піонэры ня гультаі-таі-таі,
Тут няма нам што таіць-таіць-таіць,
Усе умеюць працаваць-ваць-ваць,
Кожны мусіць гэта знаць-наць-наць.

К і м
(*робіць выгляд, што коле дровы*).

Сякерай дровы калю-лю-лю,
Вёдры ў студнях не таплю-плю-плю.
Ды іграю на дуду-ду-ду,
Гультаёў я не цярплю-плю-плю.

М і л і ц ы я н э р.

Я парадачак люблю-лю-лю,
Паглядзеў і ўсё скажу-жу-жу:
Дружна ўсе давайце жыць-ыць-ыць,
І парадачак рабіць-іць-іць.

(*Усе гуляюць у дудкі і з „тылі—тылі" ідуць на сцэну. Пятруська зноў выскаквае*).

П я т р у с ь к а. Дарагія гледачы, піонэры, акцябраты ды ўсе іншыя хлапчаняты ды дзяўчаты! што ўмелі паказалі, зарубеце на насох, што вам песьняй паднясом: (*іграе*).

Тылі-тылі-тылі—
Усіх гультаёў раскалацілі.

(*Уцякае*).

Ел. Сталь.

# НА ДУБЕ ПРАЗ ПАРОГІ.



У чэрвені месяцы г. г. адбылася экскурсія беларускіх маладнякоўцаў па Украіне разам з сябрамі украінскага „Маладняка“. Друкуем цікавы урывак з уражаньняў удзельніка экскурсіі.

*Перамычка ракі Дняпро ля гораду Кічкасу*

... Была прыгожая сьветлая раніца. Сонца ўглядалася ў люстра Дняпра, серабрыла яго сваймі пяшчотнымі, ласкавымі пацалункамі. А Дняпро такі шырокі, такі магутны. Вокам кінеш—вада і вада... Б'юцца аб берагі маленькія хвалі...

Мы ўсе стаім на беразе. Чакаем пакуль лоцман і яго памочнікі падрыхтуюць дуб у падарожжа.

Дуб... Вы, мабыць, ня ведаеце, што гэта за дуб. Дубам завецца вялізная, прасторная лодка, зробленая з дубовых дошак... Ад дуба вымагаецца ў першую чаргу моц... Раптам трапіць на падводны камень,—трэба каб вытрымаў, ня здаўся... Ні параходам, ні звычайнай лодкай праяжджаць праз парогі нельга...

Калі мы ўсе селі ў дуб і спусьціліся з берагу, памоцнік лоцмана крыкнуў:

— Палундра! [1])—і выправіў ветразь. Лёгкае дыханьне сьвежага ранішняга ветрыку—і наш дуб імчыцца ўперад даволі шпарка...

Нашаму лоцману Андрэю Фаціевічу Бялакіню—шэсьдзесят пяць год. Сорак два гады ўжо як ён лоцман—праводзіць праз парогі дубы, плыты... І бацька яго быў лоцманам, і дзед—лоцманам, і прадзед...

Недалёка ад Днепрапятроўску прытуліліся дзьве вёскі—Каменка і Кадак. І цікава, што ўсе мужчыны ў гэтых вёсках—лоцманы...

— Бацька лоцмане!—пытаемся мы ў дзеда Бялакіна,—што гэта за камень?

— Гэты камень Маскоўскім завецца. Калі была Сеч Запароская ды калі жыло тут вольнае казацтва, дык маскоўскія людзі, што прыяжджалі да казакаў, тут мелі сабе прыпынак.

Заварушыўся над намі Дняпро, занепакоіўся... З маленькіх грабенчыкаў павырасталі вялікія хвалі...

Едзем на ветразі...

— Ні табе пылу!—дзівіцца адзін з нашых. А другі перабівае:

— Ні табе беларускага балота!..

Раптам наш дуб падхапіла плынь.

— Палундра!—крыкнуў памочнік лоцмана, і спусьціў ветразь...

Усе прыціхлі, прытаіліся.

— Першы парог—Кадацкі. А зараз пачаліся „заборцы“—кажа лоцман. Пачало кідаць наш дуб, але ўпэўненая рука „бацькі-лоцмана“ надае дубу належны

---

[1]) Сьцеражыся.

напрамак... Мы ўжо праехалі некалькі вёрст ад Днепрапятроўску...

Перад нашымі вачыма разгарнуўся прыгожы, але страшны малюнак... Увесь чыста Дняпро кіпіць, бурліць, то сям, то там з-пад вады выглядаюць вялічэзныя каменьні... Адчуваем, што дуб, нібы па ступеньках, спушчаецца ўніз...

Плесканула вада ў дуб... Заліла тых, хто сядзеў уперадзе... Толькі лоцман стаіць на карме і кіруе дубам... Зноў рванула, зноў адчуваем спад... А калі азірнуліся назад, дык угледзілі, што мы знаходзімся на некалькі мэтраў ніжэй ранейшага ўзроўню вады да парога...

Праехалі першы, Кадацкі парог...

Сурскі, наступны парог, значна меншы за першы, Кадацкі... Праехалі і яго...

Праехаўшы вёрст з чатыры пасьля Сурскага парогу, нас нечакана падхапіла плынь... Нырнуў дуб... І праз хвіліну яго вынесла далёка, далёка... Гэта мы праяжджалі Лаханскі парог.

Сам па сабе Лаханскі парог невялікі, але небясьпечны. Вельмі многа на ім падводных каменьняў, няпрыкметных для вока падарожніка, пра іхняе месцазнаходжаньне ведаюць толькі лоцманы... Няхай ледзь-ледзь зачэпіцца дуб за камень і небясьпека разьбіцца на шчэпкі становіцца сапраўднасьцю, бо плынь на Лаханскім парозе дасягае страшэннай сілы...

Усіх порогаў дзевяць. Наступны парог Званецкі, за ім Цягнінка—парожак, як казаў наш сівы лоцман. А за ім парог Ненасыцец...

Ненасыцец... Адна назва кажа, як аб грозным, ненасытным... Ён тысячы ахвяр праглынуў, не адну сотню плытоў, з нашымі бацькамі-плытагонамі, разьбіў аб свае вострыя, чорныя гранітныя скалы... Цягнецца парог паўтары вярсты...

Шуміць, клякоча, стогне, рагоча, плача, сьвішча—на Ненасытцу вада, то жартуючы, то б'ючыся аб скалы чорныя... Цудоўныя вадаспады, фантаны, вадзяныя веяры, бурлівыя струменьні... А па сярэдзіне Ненасытца—Пекла. Такую назву даў народ самай страшнай мясьціне парога...

Пад'яжджаем да Ненасытца... Перапалохана глядзіць кожны з нас...

— Не, не паедзем...

— Ды я і ні за што не павязу праз Ненасыцец. На верную пагібель не павязу... Прасіце, каб паехаў,—не паеду... кажа лоцман...

Пад'яжджаем да самага парогу... Так і цягне струмень наш дуб у нейкае прадоньне, у пропасьць... Ад пропасьці мы ў двух мэтрах, ня больш...

— Грабі!—камандуе лоцман,—грабцы налягаюць на вёслы, мы вырываемся сілаю супраціўленьня ад сілы струменя, што з воем і ровам імчыцца ў пекла, і... прыстаем тут-жа да берагу кармою дуба... Вылазім, дзівімся на царства шалёнай вады...

А шчырае украінскае сонца пячэ проста бязьлітасна... Надвор'е спрыяе нам—чысты блакіт неба. Гадзіньнікі паказваюць першую гадзіну дня...

Ненасыцец праплылі каналам... Уражаньне такое-ж як і ад парогу, вада залівае дуб, дуб імчыцца з быстрынёю за тры хвіліны паўтары вярсты бяз ветразі і вёслаў, а проста па плыні... Вось дык быстрыня плыні!

У сяле Вовніг, што каля Вовнігскага парогу—мы палуднавалі. Рыбакі наварылі нам юшкі з жывых судакоў... Там я сустрэў рыбака, яму гадоў пад восемдзесят, сівы такі, ледзь ходзіць, а рыбу на вудачку ловіць на самым страшным месцы Вовнігскага парогу...

— Люблю Днепр, без яго жыць не магу... Паверце таварыш—усё жыцьцё яму аддаў... Ды як яго ня любіць, калі ён такі дужы, магутны... А вось цяпер Днепрэльстан будуюць... Затопіць вада парогі... і хату маю затопіць вада, у стэпу адвялі пасёлак, лесу даюць, грошай даюць, а ўсё-ж ня тое...

Мне хочацца сказаць:

Дзядуля! не шкадуй таго, што ня будзеш бачыць прыгожасьці, магутнасьці парогу... Затое ты ўбачыш, як электрычная лямпачка Дняпроўскай Электрычнай Станцыі асьветліць і тваю хату і соткі тысяч такіх-жа хат Запарожжа, Палтаўшчыны, Хэрсоншчыны, Мікалаеўшчыны... Затое ты ўбачыш, як электракроў пацячэ па жылах дроту на фабрыкі і заводы Савецкай Украіны, затое ты ўбачыш, як заморскія параходы будуць рабіць рэйс непасрэдна з Чорнага ў Балтыцкае мора... Не шкадуй...

Надыходзіў вечар. У сяле Фёдараўцы мы заначавалі.

Іл. Барашка.



**ЦАНА 12 кап.**

# ПАДУМАЙ?

### Загадка № 1.

Ня есьць і ня п'е, а ходзіць і ўночы і ў дзень, часамі шыпіць і вёрсты адбівае. А ну, хто адгадае?

### Перакруціся вакол палкі.

Пастаўце даўгаватую і моцную палку адным канцом у куток між сьцяной і падлогай і, трымаючыся, як паказана на малюнку, вывярнецеся так, каб галава прайшла праз трохкутнік, які ўтварыўся між палкаю, падлогаю і целам таго, хто



робіць гэты вопыт. Пры гэтым трэба памятаць, што канца палкі ссоваць з месца ня можна і самому трэба ўвесь час трымацца на нагах.

Гэты вопыт удачна можна зрабіць толькі тады, калі палка і ногі будуць пастаўлены так, што ўтвораць бакі раўнабочнага трохкутніка.

### Загадка № 2.

Маю но[illegible] хаджу:
Няхай мяне просяць,
Бо ўсе мяне з павагаю
Пад ручанькі носяць.
Галава ў [illegible]
Ды добра рассудзіць.—
Усю сямейку напою
А п'ян[illegible] будзе.





*Абман зроку: здалёк булаўкі выглядаюць убітымі ў паперу старчаком.*

## Як ён пераставіў?

На станцыі „Жабін перавоз“, збоку ад галоўнага шляху, быў яшчэ і напалову круглы, запасны шлях. На сярэдзіне запаснога шляху, як паказана на малюнку, быў пабудаваны мост **В**. Пад гэтым мостам маглі праходзіць толькі вагоны, а паравоз ня мог: комін чапляўся за мост. Зьлева, ля ліхтара **А**, стаяў вагон І-е клясы, а справа, каля ліхтара **Б**, стаяў вагон ІІ-е клясы. На галоўным шляху стаяў паравоз. Машыністаму загадана пераставіць вагон І-е клясы ля ліхтара **Б**, а вагон ІІ кл.—ля ліхтара **А**, самому-ж з паравозам вярнуцца і стаць так, як і раней стаяў. Галоўны шлях ідзе наабапал паўкруга, як гэта відаць з малюнку. Як машыністы выканаў загад?




1-я друкарня БДВ. Заказ № 3070. Галоўлітбел № 1896.